# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H.
München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22. Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22. Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 9 (140) — Нядзеля 8 сакавіка 1953 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 7


# Ідэя вызваленьня і Ялта

**У ЯКІМ РАЗЬМЕРЫ МАЕ БЫЦЬ АДКЛІКАНАЯ ЯЛТА?**

Яшчэ ў сваім пасланьні да кангрэсу 2 лютага сёлета прэзыдэнт Айзэнгаўэр папярэдзіў, што ён хутка зьвернецца да кангрэсу з праектам пастановы ануляваньня ўсіх тайных дагавораў, заключаных з Савецкім Саюзам у часе апошняе вайны, якія піхнулі вольныя народы ў ярмо савецкага нявольніцтва. Не магло быць найменшага сумліву, што прэзыдэнт меў на думцы благой славы Ялту.

Доўга чакаць ня прышлося, бо прэз. Айзэнгаўэр ужо 20 лютага зьлажыў у кангрэсе праект такой рэзалюцыі. Гэтая рэзалюцыя заклікае кангрэс ЗША, каб «разам з прэзыдэнтам задэкляраваў, што Задзіночаныя Штаты адкідаюць перайначаную інтэрпрэтацыю і тарнаваньне міжнародных дагавораў або паразуменьняў, заключаных падчас другой сусьветнай вайны, якія былі ўжытыя для ўярэмленьня вольных народаў». Далей рэзалюцыя заклікае кангрэс, каб «супольна з прэзыдэнтам выразіў надзею, што народы, уярэмленыя савецкім дэспатызмам, атрымаюць ўзноў права на самастанаўленьне ў рамах сыстэмы, загарантоўваючай мір, што будуць магчы самі выбраць сабе такую форму ўраду, якая ім адказвае, і што атрымаюць сувэрэнныя правы і незалежнасьць згодна з Атлянтычнай Картай». У ўступе да рэзалюцыі знаходзім яшчэ наступныя словы: «правадыры савецкай камуністычнай партыі, якія цяпер кіруюць Расеяй, у пагвалчэньні выразных намераў гэтых дагавораў і паразуменьняў, паддалі адносныя народы пад панаваньне таталітарнага імпэрыялізму». І напасьледак сьцьвярджае, што такога роду апанаваньне сілай вольных народаў агрэсыўным дэспатызмам узмацняе загрозу бясьпечнасьці ўсіх астальных народаў вольных уключна з амэрыканскім і што «народ Задзіночаных Штатаў, верны сваей традыцыі і спадчыне вольнасьці, ніколі не згаджаўся на такое ўярэмленьне іншых народаў».

Міністар замежных справаў ЗША Джон Фостэр Даллес у сваей прамове ў вабароне рэзалюцыі прэзыдэнта, сказанай ім перад замежнапалітычнай камісіяй палаты рэпрэзэнтантаў 27 лютага, з асаблівым націскам падчыркнуў тры наступныя мэты прэзыдэнцкай рэзалюцыі і амэрыканскай замежнай палітыкі ў будучыні: «ЗША не згаджаюцца на такія ламаньні ўмоваў, за пасярэдніцтвам якіх савецкае кіраўніцтва нарушае ранейшыя дагаворы й паразуменьні і народы заціскае ў ланцугох нявольніцтва. Такіх наступстваў амэрыканскі народ ніколі ня меў на мэце і ніколі на іх ня згодзіцца. 2. ЗША ніколі ня возьмуць ніякага ўдзелу ў інтэрнацыянальных «махінацыях» або «гандлі», якія будуць апрабоўваць рэжым савецкага дэспатызму над чужымі народамі, якія ён апаноўвае ў Эўропе і Азіі. 3. Ёсьць аднэй зь мірных мэтаў ЗША, каб гэтыя паняволеныя нацыянальныя групы Эўропы й Азіі атрымалі запраўдную незалежнасьць».

З гэтага бачым, што праект рэзалюцыі прэз. Айзэнгаўэра ня ёсьць яшчэ фармальна-праўным ануляваньнем ялтанскіх пастановаў, ані тым больш першым крокам да зарваньня дыпляматычных дачыненьняў з сатэлітнымі рэжымамі, чаго спадзяваліся эміграцыі гэтых краінаў, але мае чыста дэкляратыўнае значэньне. Яна ў сваей цяперашняй форме сталася ня перакрэсьленьнем Ялты, але абмежавалася толькі да няпрызнаньня ейнага зламаньня Саветамі.

У рэспубліканскіх колах кангрэсу падымаліся навет галасы незадаваленьня, што рэзалюцыя гэтая за агульная, за памяркоўная і навет палавічная. Тым ня меней існуюць усе дадзеныя, што папраўкі, якія маюць быць унесеныя да рэзалюцыі, аснаўнога ейнага зьместу ня зьменяць, як гэта між іншым заявілі старшыня сэнацкай камісіі замежных справаў сэнатар Вілей і старшыня сэнацкай падкамісіі, якая ўдакладняе канчальны тэкст рэзалюцыі, сэнатар Тэфт.

Ёсьць дзьве галоўныя прычыны, дзеля якіх рэзалюцыя не абвінавачвае былага прэзыдэнта Рузвэльта за падпісаньне ялтанскага дагавору й не анулёўвае яго поўнасьцю: прычыны нутраныя й вонкавыя. У выпадку калі-б рэзалюцыя скідала адказнасьць і на Рузьвэльта за Ялту, дык тады супраць яе была-б бальшыня дэмакратаў і, хоць-бы яна й прайшла, але невялікай колькасьцю галасоў, што зьменшыла-б ейны палітычны эфэкт. А рэзалюцыя ў цяперашнім сфармуляваньні, што ня Ялта, як такая, была прычынай усяго зла, але тое, што Саветы сыстэматычна ялтанскія дагаворы ламалі, мае ўсе шансы, што за яе будуць галасаваць і ўсе дэмакраты. Але важнейшай ёсьць прычына вонкавая. Калі-б Амэрыка поўнасьцю анулявала ялтанскі дагавор, тады Саветы маглі-б заквэстыянаваць правы заходніх дзяржаваў да Заходняга Бэрліна й Вены, што таксама было вынікам Ялты й Потсдаму. Гэта магло-б прывесьці да вялікага скамплікаваньня дачыненьняў з Саветамі, чаго Амэрыка, хаця-бы з гледзішча на вялікую апазыцыю ў дачыненьні да ейных сьмелых антысавецкіх ходаў Вялікабрытаніі, яшчэ ня хоча.

Ня гледзячы на гэтую сваю палавічнасьць, рэзалюцыя прэз. Айзэнгаўэра мае вялізарне значэньне. Яна ёсьць тэй ідэйнай асновай, на якой будзе будавацца ў будучыні ўся амэрыканская замежная палітыка. **Гэтымі ідэйнымі асновамі ёсьць вызнаньне бясспрэчных правоў на вольнасьць і незалежнасьць усіх народаў сьвету і безаглядная гэтых правоў абарона.** Амэрыка цяпер узыходзіць на новы палітычны шлях, супярэчны дасюлешняму. Няўдалая сыстэма паўстрымоўваньня Савецкага Саюзу ў межах ягоных дасюлешніх заваяваньняў коштам розных уступак і кампрамітуючых дагавораў беспаваротна скончылася, а пачынаецца палітыка вызваленьня ў глябальным маштабе. Распачынаецца

(Заканчэньне на 2 балоне)

# СТАЛІН НЯ ЖЫВЕ

**Вестка аб сьмяротнай хваробе Крэмлёўскага дыктатара, перададзеная савецкім радыем у сераду 4 сакавіка, ускалыхнула цэлым сьветам, выклікала самыя розныя пачуцьці й хваляваньні. Адных яна ўзрадавала, іншых устрывожыла й перапалохала, але нікога бадай не авеіла сумам і спачуваньнем.**

**І цікавае зьявішча! Калі паміраюць людзі ня менш знаныя й папулярныя, людзі найболей заслужаныя для чалавецтва, найбольш імі ўлюбленыя й цэненыя, сьмерць іхная звычайна прыймаецца спакойна, як зьявішча зусім натуральнае й няўхільнае, гэтак як зусім звычайным і прыродным было іхнае імкненьне служыць і несьці дабро чалавецтву. Вось-жа Сталін не належыў да гэтай катэгорыі людзей, і ў гэтым хаваецца ўвесь сакрэт, чаму ягоная, зусім натуральная, хоць і няпрыгожая сьмерць, не магла астацца безь вялікага рэха ў пачуцьцях і думках людзей і народаў цэлага сьвету.**

**Сярод людзей, грамадзянстваў і народаў было і бывае шмат праступнікаў і злачынцаў, для якіх Божае й людзкое права, прыроджанае чалавеку пачуцьцё дабра, справядлівасьці й літасьці зьяўляецца чужым і навет ненавісным, якія на сваім сумленьні маюць вялікія злачынствы, але шкоды, спрычыненыя імі для чалавецтва, зьяўляюцца ў большай або меншай ступені абмежаванымі, так як абмежаванымі былі іхныя праступныя магчымасьці. Звычайны праступнік ня мае ў сваіх руках улады над іншымі, а існуючая ўлада сваімі зялезнымі законамі яго перасьледуе і карае. Горш, калі праступнік сам зьяўляецца ўладай, а ягоная воля й пажаданьні — неадменным законам. Да апошняй катэгорыі праступнікаў і належыў Сталін.**

**Гісторыя на сваіх балонах запісала ўсяго толькі некалькі такіх праступнікаў, нясланыя імёны якіх перайшлі ў наступныя пакаленьні, як жахлівыя сымбалі абсалютнага зла, інстынкту нішчэньня і найбольш вырафінаванага і пэрфіднага зьдзеку над чалавекам.**

**Дзеля прыкладу возьмем тры імёны такіх праступнікаў: рымскага цэзара Нэрона, Чынгіс-Хана і маскоўскага цара Івана Грознага, з каторым асабліва часта любяць зраўніваць Сталіна і параўнаньне зь якім любіў навет сам Сталін. Але калі параўняць разьмеры й маштабы злачыннай дзейнасьці ўсіх чатырох ,калі зьмерыць усё тое зло, якое яны па сабе пакінулі, то злачынствы трох першых бледнуць у параўнаньні із злачынствамі апошняга. Калі першыя пакінулі па сабе невялічкія азяркі нявінна пралітай крыві і сьлёз, то апошні пакінуў па сабе цэлыя моры. І гэта ў наш слаўны й гуманны XX век! Вось чаму Сталіна параўноўваць нельга зь нікім, можна толькі дашуквацца ў васобе Нэрона, Чынгіс-Хана і Івана Грознага яшчэ прымітыўных, значна абмежаваных тагачаснымі тэхнічнымі й цывілізацыйнымі ўмовамі жыцьця, ягоных папярэднікаў і прататыпаў. Зло, якое прынёс чалавецтву Нэрон, расьцягвалася толькі на Рым, навет не на цэлую рымскую імпэрыю. Дарогі, якія значыў трупамі і папялішчамі Чынгіс-Хан, бадай што ня выходзілі далей азіяцкіх стэпаў. Крывавыя расправы, якія ўчыняў Іван Грозны, абмяжоўваліся фактычна да баярскага слою тагачаснай Маскоўшчыны. Затое зло, якое было мэтаю жыцьця й дзейнасьці Сталіна, адчуў і перажыў, хоць не ў ваднолькавай меры, даслоўна ўвесь сьвет. Бліжэйшым параўнаньнем можа ўжо служыць Гітлер, але ягоная праступная дзейнасьць была спыненая на поўдарозе, тады, калі такая-ж дзейнасьць Сталіна была выкананая ім да канца й навет пераказаная ў спадчыне ягоным наступнікам.**

**Увесь вольны свьвет, куды яшчэ непасрэдна не дасягнула крывавая рука**

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Палітычныя Навіны

**Плян эўрапэйскай арміі ў вырашальнай стадыі.** 24 і 25 лютага сёлета адбылася ў Рыме канфэрэнцыя міністраў замежных справаў Францыі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу ў справе эўрапэйскай арміі. Як ведама, хуткая ратыфікацыя дагавору аб эўрапэйскай арміі ўпіралася апошнім часам у дадатковыя пратаколы, прыняцьця якіх дамагалася Францыя перад ратыфікацыяй самога дагавору. Вось-жа на рымскай канфэрэнцыі міністар замежных справаў Францыі Бідо пайшоў на значныя ўступкі й згадзіўся, што дадатковыя пратаколы ня будуць вымагаць ратыфікацыі. Найважнейшы дадатковы пратакол прадбачваў, што Францыя будзе магчы забіраць свае войскі з эўрапэйскай арміі для ўжываньня іх у сваіх калёніях бяз згоды іншых партнэраў эўрапэйскай арміі й не зьмяншаючы з гэтае прычыны колькасьці сваіх галасоў, прыслугоўваючых ей у эўрапэйскай абароннай супольнасьці.

**Узнаўленьне пленарнай сэсіі ЗН.** Перарваная коратка перад Калядамі 7-ая пленарная сэсія Задзіночаных Нацыяў аднавіла ўзноў 24 лютага ў Нью Ерку сваю дзейнасьць. Галоўнай тэмай сэсіі й цяпер зьяўляецца справа Карэі.

**Балканскія дзяржавы заключылі саюз прыязьні.** 25 лютага быў ратыфікаваны ў Атэнах дагавор між Грэцыяй, Турэччынай і Югаславіяй аб саюзе прыязьні між гэтымі дзяржавамі. Гэты саюз, як падае спэцыяльна выдадзены ў Атэнах камунікат, яшчэ не зьяўляецца мілітарным паразуменьнем. Аднак між гэтымі дзяржавамі вядуцца ўжо перагаворы аб заключэньні супольнага абароннага мілітарнага пакту.

**Парляманцкія выбары ў Аўстрыі.** З адбыўшыхся 22 лютага ў Аўстрыі парляманцкіх выбараў выйшлі пераможнымі народная партыя, якая атрымала 74 мандаты, і сацыялістыя, якія атрымалі 67 мандатаў. Найвялікшай неспадзеўкай была няўдача камуністых, якія атрымалі толькі 4 мандаты, ня гледзячы на тое, што ў выбарах прыймала ўдзел і насельніцтва савецкай зоны Аўстрыі. У міжнародных прэсавых камэнтарах згодна падчыркваецца, што аўстрыяцкі народ выказаў гэтымі выбарамі сваю палітычную мудрасьць.

**ЗША і Францыя каардынуюць свае сілы на Далёкім Усходзе.** У Токіё, як і на карэйскім і індакітайскім тэатры вайны ў вапошні тыдзень былі праведзеныя захады дзеля каардынацыі абароны ЗША і Францыі супраць супольнага камуністычнага ворага. Гэтак францускі маршал Альфонс Жуэн правёў на гэтую тэму адпаведныя размовы з галоўнакамандуючым збройнымі сіламі ЗН ў Карэі генэралам М. Кляркам падчас сваіх адведзінаў на Далёкім Усходзе. Пасьля-ж ад'езду маршала Жуэна ў Індакітай гэнерал М. Клярк меў на гэтую тэму размову з былым францускім прэм'ерам Рэйно.

**Чан-Кай-Шэк адклікаў ялтанскі дагавор.** Урад нацыянальнага Кітая адклікаў 24 лютага дагавор між Кітаем і Савецкім Саюзам, заключаны ў 1945 годзе ў сувязі з ранейшым ялтанскім дагаворам. Прычынай адкліканьня было тое, што Савецкі Саюз сваім агрэсыўным захоўваньнем, умешваньнем у справы Кітаю й вызнаньнем ураду Мао-Тсэ-Тунга ў 1949 годзе сам гэты дагавор зарваў. Адкліканьне гэтага дагавору дае нацыянальнаму Кітаю вольныя рукі ў эвэнтуальнай блякадзе манджурскіх партоў Дайрэн і Порт Артур, так як дагавор даваў Маскве вялікія правы ў гэтых партох.

**Лётніцкая актыўнасьць ЗН у Карэі.** Апошнім часам нязвычайна зактывізавалі сваю дзейнасьць лётніцкія збройныя сілы Задзіночаных Нацыяў у Карэі. Гэтак у мінулым тыдні толькі аднаго дня лётніцтва ЗН зрабіла 985 налётаў на становішчы ворага. Дзьве фармацыі самалётаў, чыслом 379 самалётаў, збамбардавалі аддзел камуністычнай пехаты на адным полі вышкалу, ськідаючы 340.000 кіляграмаў бомбаў.

**Саветы ўмешваюцца ў вайну ў Індакітаі.** Савецкі маршал Маліноўскі, галоўна-камандуючы савецкімі збройнымі сіламі на Далёкім Усходзе, і Юры Пушкін, віцэ-міністар замежных справаў, адправіліся ў Індакітай, дзе савецкія ахвіцэры апрацоўваюць стратэгічныя пляны для ветмінцаў. Камуністычны Кітай загразіў, што ў выпадку блякады ягонага ўзьбярэжжа ён адкажа ўжыцьцём падводных лодак, «пазычаных» ад Савецкага Саюзу, якія знаходзяцца ў Порт Артуры.

**Прыняцьце праекту эўрапэйскай канстытуцыі.** Канстытуцыйная камісія эўрапэйскага спэцыяльнага сабраньня прыняла 26 лютага ў першым чытаньні праект канстытуцыі эўрапэйскай палітычнай супольнасьці 21 голасам супраць аднаго. З 26 сяброў камісіі 4 было няпрысутных. Другое й апошняе чытаньне канстытуцыі адбудзецца яшчэ ў гэтым месяцы ў Штрасбургу.

**Падпісаньне Суданскага дагавору.** Доўгатрываючыя брытанска-эгіпскія спрэчкі ў справе будучыні Судану закончыліся 12 лютага падпісаньнем спэцыяльнага дагавору, паводля якога у найбліжэйшым часе адбудуцца ў Судане агульныя выбары, будзе створаны собскі ўрад і пасьля трох год будзе праведзены плебісцыт, на якім народ Судану сам пастановіць аб сваім будучым лёсе. Плебісцыт пастановіць, ці Судан прылучыцца да Эгіпту, ці прыступіць да брытанскага камэнвэльту ці, напасьледак, абвесьціць поўную незалежнасьць.

**Расстрэлы й чысткі ў Мадзяршчыне.** Перад некалькімі тыднямі прыбыла ў Будапэшт надзвычайная камісія з Масквы з мэтаю ачышчэньня адміністрацыі краіны ад «сыяністычных уплываў». Чыстка перадусім абняла міністэрства бясьпечнасьці. Шэф гэтага міністэрства, генэрал Пётр Габор, з паходжаньня Жыд, быў расстрэлены разам з жонкаю й дзяцьмі. Апрача гэтага звыш 30 мадзярскіх камуністых жыдоўскага паходжаньня было зьнятых з адказных дзяржаўных становішчаў. Часьць іх была арыштаваная, а часьць пакончылі самагубствам.

**Немцы раскрываюць тайныя савецкія пляны.** «Бюлетэнь» Ураду нямецкай саюзнай рэспублікі ў выданьні за 24 лютага падае, што ў чэхаславацкай арміі заведзены курсы нямецкай мовы, слухачоў якіх дакладна абзнаёмліваюць з укладам жыцьця ў Заходняй Нямеччыне. Сярод слухачоў курсаў няма сакрэту, што праводзяцца цяпер прыгатаваньні для вайсковай акупцыі Заходняй Нямеччыны чэхаславацкай і савецказоннай нямецкай арміямі й «народнай паліцыяй». Тайныя пляны гэтай акцыі ўжо апрацаваныя. Пры галоўнай гасподзе службы бясьпечнасьці ў Празе створаны спэцыяльны аддзел, у якім апрацоўваюцца ўсе інфармацыі, што паступаюць з Баварыі, Вюртэнбэргу й Гэсэну ад чэхаславацкіх агентаў і нямецкіх камуністых. Зарганізаваная таксама картатэка, у якой падаецца надзейнасьць нямецкага насельніцтва або ягоная варожасьць да камунізму.

**Каталіцкі касьцёл у Польшчы падпарадкаваны дзяржаве.** Польская дзяржаўная Рада (што адказвае Вярхоўнаму Савету СССР) выдала нядаўна дэкрэт пра абсаджваньне дзяржаваю касьцельных становішчаў. Такім чынам варшаўскі камуністычны ўрад скасаваў дагавор з эпіскапатам, падпісаны ў красавіку 1950 году, і зрабіў поўнасьцю залежнай ад камуністычных установаў ўсю арганізацыйную структуру і ўсё жыцьцё рымакаталіцкага касьцёлу.

**Мосадэк арыштаваў 60 ахвіцэраў.** На На фоне заіснаваўшага перад некалькімі днямі канфлікту між пэрскім шахам і прэм'ер-міністрам Мосадэкам дайшло да крывавых вулічных дэманстрацыяў у Тэгеране. Праз першыя два дні камуністыя ня бралі ўдзелу ў дэманстрацыях, а 3 сакавіка і яны выйшлі на вуліцы сталіцы. Ёсьць ужо некалькі забітых і шмат параненых. Адначасна Мосадэк даў загад арыштаваць 60 ахвіцэраў, якія бралі ўдзел у дэманстрацыях на чэсьць шаха. Як інфармуюць, армія ёсьць падзеленай, пры чым вялікая часьць ахвіцэраў выступае супраць Мосадэка. Гэтыя дэманстрацыі ня выключаюць выбуху дамашняй вайны ў Пэрсыі, у якой могуць шмат выйграць камуністыя.

**Югаславія ліквідуе калгасы.** Пасьля палітычнага зарваньня Югаславіі з Савецкім Саюзам пачынаецца адварот ад гаспадарскай савецкай сыстэмы, пайменна ўстрыманьне калактывізацыйнай акцыі. Прэм'ер Харваччыны Бакарыц асьветчыў, што Югаславія «канчаткова пакінула калактывізацыю», а акцыю ліквідацыі калгасаў распачала ўжо год таму назад.

**5.000 уцекачоў у заходні Бэрлін за адзін дзень.** 2 сакавіка ўцякло ў заходні Бэрлін Немцаў з савецкай зоны звыш 5.000 чалавек, што пабівае дасюлешні найбольшы лік уцекачоў, які быў у мінулы панядзелак у колькасьці 3.500 чалавек. Некаторыя газэты гэтыя ўцёкі называюць запраўдным перасяленьнем народаў.

**Русыфікацыя Польшчы й Чэхаславаччыны.** Ува ўсіх сатэлітных краінах ужо ад даўжэйшага часу праводзіцца ўзмоцненая русыфікацыя. За дадзенымі савецкай прэсы, тысячы й дзесяткі тысячаў польскіх і чэхаславацькіх работнікаў, сялян і інтэлігенцыі мусяць быць слухачамі гурткоў і курсаў расейскай мовы. Прыкладам у Польшчы ў 1952 годзе працавала звыш 13.000 такіх курсаў. Толькі з праграмай першага году навучаньня ў іх навучалася 125.000 асобаў. У Чэхаславаччыне ў 17.000 гуртках навучаецца каля 250.000 чалавек.

**Воўчая нага ў лес цягне.** На 4-ым кангрэсе народнага фронту ў Югаславіі Ціта заявіў, што Масква й Ватыкан хочаць падзяліць сьвет на два варожыя лягеры. «Хаця Расея зьяўляецца камуністычнай і рэакцыйнай — сказаў Ціта — але й рэакцыйныя колы Захаду, якія заклікаюць да крыжовага паходу супраць усяго прагрэсыўнага, зьяўляюцца значнай загрозай для сусьветнага міру».

# Ідэя вызваленьня і Ялта

(Заканчэньне)

становучы паварот да прыгожых прынцыпаў Атлянтычнай Карты, ганебна перакрэсьленай потым ейнымі аўтарамі Ялтай і іншымі тайнымі дагаворамі з савецкім агрэсарам. У гэтым якраз заключаецца вялізарнае гістарычнае значэньне рэзалюцыі прэз. Айзэнгаўэра.

### РЭВІЗІЯНІСТЫЧНЫЯ ПРЭТЭНСІІ Ў СУВЯЗІ ЗЬ ЯЛТАЙ

Пытаньне Ялты й вакол Ялты для нас Беларусаў зьяўляецца важным яшчэ з гледзішча іншага. Выступленьне прэз. Айзэнгаўэра ў справе ануляваньня тайных дагавораў з Савецкім Саюзам ажывіла й заактуалізавала рэвізіяніністычныя тэндэнцыі тых народаў, якія маюць тыя або іншыя тэрытарыяльныя прэтэнсіі ў сувязі зь Ялтай і Потсдамам. Гэтымі народамі зьяўляюцца тры: Японцы, Немцы й Палякі. Японцы дамагаюцца звароту Паўдзённага Сахаліна й Курыльскіх астравоў, Немцы Ўсходнай Нямеччыны, адступленай ялтанскім і потсдамскім дагаворамі Польшчы, а Польшча, жадаючы затрымаць гэтыя землі, у сваю чаргу дамагаецца ўсходніх сваіх граніцаў 1939 году. Паколькі дамаганьні Японіі нас зусім не датычаць, патолькі дамаганьні Нямеччыны пасрэдна, а Польшчы непасрэдна датычаць цэласьці й незалежнасьці Беларусі.

Палякі, як ведама, ніколі не згаджаліся на злучэньне ў вадно цэлае Беларусі й Украіны, заходнія часьці якіх згодна ялтанскага дагавору былі ей адабраныя. Цяпер у сувязі з рэзалюцыяй прэзыдэнта Айзэнгаўэра гэтыя рэвізіяністычныя прэтэнсіі Палякаў узмоцніліся на сіле. Гэтак, прыкладам, лёнданскі «Дзеньнік Польскі» за 23 лютага сёлета ў рэдакцыйным артыкуле, паклікаючыся на Атлянтычную Карту, піша: «У сьвятле пастановаў гэтай Карты не падлягае найменшаму сумліву, што пастаноўлены ялтанскім дагаворам захоп Расеяй палавіны Польшчы, як і стварэньне ў астальной часьці нашага краю марыянэткавай адміністрацыі Берута, гэта гвалт пазбаўлены ўсякіх праўных і маральных асноваў». Аб тым, ці адабраньне ад Польшчы захопленых ёю раней заходнябеларускіх і заходняўкраінскіх земляў зьяўляецце «гвалтам пазбаўленым усякіх праўных і маральных асноваў», скажам ніжэй. Цяпер аб чымсьці іншым.

Вось-жа прэтэнсіі Палякаў на Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну, ня былі-б яшчэ для нас небясьпечнымі, калі-б ня справа Нямеччыны. Як ведама, аб сяньняшняй нямецка-польскай граніцы на Одры й Найсе Немцы ня хочуць і слухаць, тым больш не захочуць аб гэтым слухаць і ў будучыні, калі надыйдзе час перабудовы падсавецкага Ўсходу. А зь Немцамі Захад, а перадусім Амэрыка, якая й сяньня ня вызнае адступленьня Ўсходняй Нямеччыны Польшчы, будуць змушаныя лічыцца, і то лічыцца вельмі моцна, як з найважнейшым сваім эўрапэйскім партнэрам у будучай вайне з Саветамі. Немцы гэта вельмі добра разумеюць і гэтае сваё становішча перад Амэрыканцамі патрапяць выкарыстаць. Таму зусім аб'ектыўна бяручы, затрыманьне Палякамі г. зв. «зем одзысканых» у будучыні зьяўляецца вельмі і вельмі праблематычным.

Але Немцы таксама разумеюць, што Польшчы будзе цяжка адмовіцца ад усходня-нямецкіх земляў бязь нейкай іншай рэкампэнсаты. Таму Немцам вельмі на руку польскія рэвізіяністычныя прэтэнсіі на Ўсходзе — за прывярненьне граніцаў 1939 году. Такія прапановы ў нямецкай прэсе зьяўляюцца што раз часьцейшымі. Вось чаму Немцы ня ёсьць і ніколі ня будуць прыхільнікамі незалежнасьці Беларусі і Ўкраіны, як і ня былі імі ніколі перад гэтым.

Але горш тое, што й некаторыя ўплывовыя Амэрыканцы пачынаюць у сувязі з рэзалюцыяй прэз. Айзэнгаўэра выказвацца за падобнымі праектамі. Гэтак блізкі супрацоўнік міністра Даллеса Гамільтон Армстронг у паважным і ўплывовым амэрыканскім журнале «Форэйн Эфэйрс» нядаўна зьмясьціў артыкул, у якім падае свае рады ў справе разьвязаньня нямецка-польскага пытаньня. Ён пайменна радзіць, што амэрыканская дэклярацыя вызваленьня павінна была-б падтрымліваць Палякаў у іхным імкненьні да атрыманьня Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, затое Польшча павінна была-б зьвярнуць Нямеччыне землі ўсходнянямецкія, якія атрымала ад Сталіна як рэкампэнсату за землі ўсходня-польскія.

### «СВАБОДА ЁСЬЦЬ НЕПАДЗЕЛЬНАЯ»

Польскія прэтэнсіі на заходня-беларускія і заходня-ўкраінскія землі ў сьвятле амэрыканскай палітыкі вызваленьня зьяўлаюцца поўнасьцю беспадстаўнымі як з гледзішча праўнага, так з маральнага. З праўнага гледзішча Беларусы на падставе пастановаў Атлянтычнай Карты, на якую паклікаецца й рэзалюцыя прэзыдэнта Айзэнгаўэра, маюць такое самае права на сваю вольнасьць і незалежнасьць, як і Палякі, як і ўсякі іншы народ у сьвеце. Усякае маральнае права Палякаў на чыста беларускія землі поўнасьцю адыймае ім іхная наслаўная палітыка ў Заходняй Беларусі да 1939 году, дзе **нацыянальнае паняволеньне й перасьледваньне за законныя нацыянальныя правы ў сваей пэрфіднасьці й безагляднасьці праводзілася на другім пасьля Савецкага Саюзу месьцы ў цэлым сьвеце.** Калі-ж ходзіць аб гаспадарскія патрэбы мець у межах Польшчы частку Беларусі, дык роўныя гаспадарскія патрэбы мае кожны народ, у тым ліку й народ беларускі. Дзеля памяншэньня гушчыні насельніцтва ў Польшчы будучая вольная Беларусь з ахвотай можа забраць з Польшчы тыя сотні тысячаў Беларусаў, пераважна каталікоў, якія падавалі сябе Палякамі, каб перасяліцца ў Польшчу ў надзеі, што там захаваюцца яны даўжэй ад усёзьнішчаючага НКВД.

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр, абыймаючы 20 студзеня сёлета прэзыдэнцкі ўрад, на ступенях Капітолю сказаў гістарычныя словы: **«Уважаючы, што абарона свабоды, так як і сама свабода, ёсьць непадзельная, адносімся з роўнай пашанай да ўсіх кантынэнтаў і народаў. Адкідаем усякую інсынуацыю, што тая або іншая раса, той ці іншы народ зьяўляецца зь якога-небудзь гледзішча ніжэйшы і можа быць ахвяраваны».**

Гэтыя словы амэрыканскага прэзыдэнта зьяўляюцца й для нас Беларусаў найлепшай зарукай, што запачаткаваная Амэрыкай палітыка вызваленьня ня будзе аовернутая на паняволеньне народаў адных, каб заспакоіць імпэрыялістычныя апэтыты народаў другіх.

**Язэп Каранеўскі**

# Як гэта разумець?

У артыкуле 8 Статуту КЦАБ-у чытаем: **«Недапушчэньне пасьля паваленьня дыктатуры палітыкі помсты».** Як разумець гэтае абвешчаньне ў статуце КЦАБ-у, бліжэй ня было выясьнена. Выглядала тады з такога агульнага сфармуляваньня, што пад помстай трэба таксама разумець і справядлівае пакараньне непасрэдных віноўнікаў усіх бальшавіцкіх злачынстваў уключна з гэносідызмам. Аднак, на нашую думку, нельга абвяшчаць усёпрабачэньня за найбольшыя й найгоршыя злачынствы над чалавекам і народамі, якія калі-небудзь мелі месца ў гісторыі. Гэта ня супраць ані догмаў хрысьціянскай рэлігіі, ані прынцыпаў гуманнасьці й хрысьціянскай цывілізацыі.

Аднак ня толькі аўтары статуту КЦАБ-у зьяўляюцца іншай думкі. Гэтак і расейскія салідарыстыя з пад фірмы НТС у сваім воргане «Посев» у артыкуле «Аб кадрах рэвалюцыі» (аўтар нейкі В. Макарскій) нядаўна пісалі даслоўна наступнае: «Пасьля перамогі вызвольнай рэвалюцыі ў вабноўленай Расеі кажны можа заняць палажэньне згодна з удзелам у вызвольным змаганьні і згодна із сваімі маральнымі й дзелавымі якасьцямі. **Папярэдняя прыналежнасьць да камуністычнай партыі або прыналежнасьць да ворганаў абароны сталінскага рэжыму (чытай НКВД-МГБ) не павінны разглядацца, як адмоўны факт. Разам з гэтым, пакараньні, адбытыя ў савецкіх турмах, і наагул праследваньні з боку савецкай улады, ня могуць быць асновай для якіх-небудзь прывілеяў. Усе правы, здабытыя паасобнымі людзьмі пры савецкім строі — чыны, званьні, ордэны, мэдалі і іншыя — павінны захаваць сваю сілу. Ніякіх перасьледваньняў за дзеяньні савецкай улады, калі яны былі накіраваныя супраць вызвольнай рэвалюцыі, не павінна быць»** (падкрэсьленьне нашае — Рэд.).

Калі-б мы пісалі гэтую зацемку яшчэ некалькі дзён раней, калі яшчэ нічога

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Сталін ня жыве

(Заканчэньне)

**Сталіна, дзе яшчэ не завісла ягоная ўлада, зь віны й волі ягонае ўсе пасьляваенныя гады жыў у страху й бесьперапынным напружаньні, быў разьяданы й раскладаны ягонымі пятымі калёнамі й сеткамі шпіянажу, абмежваў свой дабрабыт, матарыяльны й духовы рост, аддаючы ўсе сілы й багацьці на абарону, бо чакаў бальшавіцкай агрэсіі, якая магла распачацца кажнага няведамага дня на адно слова Сталіна. Дзесяткі тысячаў амэрыканскіх матак або аплакваюць загінуўшых у карэйскай вайне, распаленай Сталінам, сваіх сыноў, або ў пачуцьці глыбокай трывогі чакаюць жалобнай весткі аб іхнай сьмерці. Імя Сталіна сталася ў вольным дэмакратычным сьвеце найбольш ведамым, найчасьцей паўтараным, але і найбольш зьненавіджаным.**

**Але без параўнаньня страшнейшы спаткаў лёс народы, што сталіся поўнымі нявольнікамі ягонае турмы ўжо ад трох зь лішнім дзесяткаў гадоў. Кажны дзікі капрыс чырвонага дыктатара значыўся там мільёнамі сьмерцяў нявінных людзей, сьлязамі, голадам і холадам мільёнаў нявінных дзяцей і жанчын. Пашыраны сказ, што ў Савецкім Саюзе няма тэй сям'і, у якой нехта ня быў-бы расстрэлены, арыштаваны або высланы на павольнае, але няўхільнае, кананьне, належыць не да буйнай фантазіі, але да аб'ектыўнай запраўднасьці. З волі Сталіна адна шостая частка сьвету ўсееная канцэнтрацыйнымі лягерамі, у якіх штогод мучыцца 20—30 мільёнаў ні ў чым нявінаватых людзей. Закатаваныя й передчасна памёршыя зь непасільнай працы, голаду й холаду старанна папаўняюцца новымі ахвярамі. Усе вялізарныя каналы, шляхі й дарогі, пабудаваныя ў гады «слаўных» сталінскіх пяцігодак, прасякнутыя крывёю зьняволеных і «вольных» нявольнікаў. Хваорыкі и заводы, што выраслі ў Савецкім Саюзе дзеля прадукаваньня зброі для падбою сьвету, пабудаваныя на касьцях тых, што іх пад энкавэдоўскім штыхом будавалі. Загнаныя ў жахлівую няволю мільённыя масы, да апошніх магчымасьцяў эксплятаваныя, мучаныя голадам, фізычным і маральным тэрорам, былі змушаныя пець на чэсьць свайго ката пахвальныя гымны ды называць яго сваім «найлепшым другам», «мудрым вучыцелем» і «бацькам». Гэткі лёс і гэткае «радаснае й шчасьлівае» жыцьцё нёс Сталін для цэлага сьвету.**

**З нагоды ягонае сьмерці ўсе кіраўнікі вольных дэмакратычных дзяржаваў пасьпяшылі із сваімі кандаленцыямі, выказваючы свае спачуваньні савецкаму ўраду, але не паняволеным падсавецкім народам, бо яны ведалі, што сьмерць Сталіна для гэтых народаў ня была жалобай. Складаць кандаленцыі дыктуе міжнародны звычай між дзяржавамі, якіх вяжаць дыпляматычныя дачыненьні. Але публічная апінія вольнага сьвету, якой ніякія дыпляматычныя правілы не абавязваюць, правяла крэмлёўскага тырана на той сьвет паводля ягоных заслугаў. Спрадвечны й агульна абавязваючы прынцып: «De mortuis aut bene, aut nihil» (аб памерлых або добра, або нічога) не знайшоў у гэтым выпадку свайго прымяненьня. Уся заходняя прэса, за выключэньнем камуністычнай, што стаіць на ўслугах бальшавіцкіх пятых калёнаў, больш менш аб'ектыўна падсумавала ягоныя злачынствы й вынесла яму свой суровы, але справядлівы прысуд. Навет Ватыкан, які кіруецца Хрыстовымі прынцыпамі прабачэньня, яшчэ напярэдадні ягонае сьмерці асьветчыў, што Сталіну прабачыць нельга: над ім можна толькі літавацца, што становіцца перад судом Усявышняга з гэтак абцяжаным сумленьнем жахлівымі злачынствамі, якіх ад пачатку нашай эры не даканаў ніводзін чалавек у сьвеце.**

**Мы-ж Беларусы, якія ўжо звыш трыццацёх год зьяўляемся трагічнымі ахвярамі бальшавіцкай няволі, пасылаем табе, Сталін, на дарогу на той сьвет толькі нашае праклядьце!**

**За нячуванае ў гісторыі ўсіх часоў паняволеньне беларускага народу, за ягоныя фізычныя і маральныя мукі праклінаем цябе, крывавы Сталін!**

**За прымусовую пляновую й безаглядную русыфікацыю беларускага народу, нішчэньне ягоных нацыянальных вартасьцяў, ягонай мовы й культуры праклінаем цябе, крывавы Сталін!**

**За голад, эксплятацыю і калгасны прыгон праклінаем цябе, крывавы Сталін!**

**За мільёны расстрэленых, арыштаваных і высланых у далёкі Сібір і халодную Поўнач Беларусаў праклінаем цябе, крывавы Сталін!**

**За енкі й сьлёзы нявінных сіротаў, удоваў і матак па закатаваных табою бацькох, мужох і сынох праклінаем цябе, крывавы Сталін!**

**Нягоднае імя тваё астанецца вечна ў памяці нашага народу, але толькі як сымбаль крывавага зьдзеку, бяспраўя, ненавісьці, усенароднага гора і цярпеньняў!**

**ЯНКА КУПАЛА** 5)

# ТУТЭЙШЫЯ

(Працяг)

### ЗЬЯВА V

ТЫЯ-Ж — ДАМА — ПОП — СПРАЎНІК —ПАН

МІКІТА. (Вітаючыся, надскакваючы). Каго я бачу, меджду протчым! Якое мілае, неспадзяванае спатканьне! Ці не мядзьведзь здох? Цалую ручкі мадам-сіньёры! Айцу духоўнаму маё сыноўскае ўпакарэньне! Вашародзіе, прымеце пакорны прывет! Маё найніжэйшае ўшанаваньне, ясьне пане грабя! Сядайце, калі ласка, сядайце! (Прышоўшыя сядаюць).

ПОП. Ох, дзелеса — чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчысьлімыя. Навождзяху оне на себя возьмезьдзіе необозрымое.

МІКІТА. Куды-ж гэта, калі можна спытацца, мадам-сіньёра і мусьі свае, меджду протчым, пэрсоны ськівавалі?

СПРАЎНІК. Часова адступаць прышлося. Эвакуемся туды — на Захад, дзе сэрцу прытульней і грудзям дышыцца «вальготней».

ДАМА. Часова пераношу сваю філянтрапійную чыннасьць на тэрыторыю . . .

МІКІТА. (Перабіваючы). Быўшых нашых ворагаў — гэрманаў, мадам-сіньёра?

ДАМА. Мусье рэгістратар, вы згадалі!

ГАРОШКА. (Да Пана). Значыцца, даіцё лататы?

ПАН. А так, прыходзіцца, толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой ня прэцца, бо як вярнуся . . .

МІКІТА. (Перабіўшы). Усё гэта праклятая, меджду протчым, рэвалюцыя нарабіла.

ЯНКА. Што, кусаецца? Вы, пэўна-б, хацелі і зь печкі зваліцца і патыліцы не адбіць? Рэвалюцыя, мае паны, ня цётка — па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў ня гладзіць.

ДАМА. Мусье Беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?

ЯНКА. Паддаецца эвакуацыі ў сягоньняшні час толькі той, у каго або нячыстае сумленьне, або ён сядзеў тут з боку — прыпёку, не раўнуючы, як пустазельле на сялянскай градзе.

ДАМА. (Да Мікіты). А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады мусье Беларуса, то пэўне заставацца тут ня будзеце і нашым шляхам пойдзеце?

МІКІТА. Мадам-сіньёра, вы не згадалі: я меджду протчым, застаюся. Як ісьты рускі патрыёт, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і рускаісьцінных інтарэсаў. Хоць можа я гэтак рызыкую нават сваей, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.

ЯНКА. Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных прафэсіях, што ўжо ня здольны да ніякае місіі — нават да тэй сваёй роднай, ісьцінна-рускай місіі.

МІКІТА. Меджду протчым, не забывайце, пане Беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча. Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'яжджаючы, на гэту місію багаславіў. (Паўза).

ГАРОШКА. (Да Папа). А вы, бацюшка, таксама за імі (махнуўшы пугай) туды — у прочкі?

ПОП. Нет, чадо мое. Акі пастыр, я должэн остацца пры агнцах своіх, я толькі провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.

СПРАЎНІК. Але, панове, час нам ужо ў дарогу! Вораг ня сьпіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам усе ходы для адступленьня.

ГАЛАСЫ. А так! Праўда! Час!

МІКІТА. Пагасьцілі-б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць хвіліну! . . . (Дама, Поп, Спраўнік, Пан — устаюць, раскланьваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, зь якога прышлі былі).

ПОП. (Ідучы ўсьлед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой). Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее врэмя в жаркія страны. Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер круціцкая!

### ЗЬЯВА VI

МІКІТА — ЯНКА — АЛЕНКА — ГАРОШКА

МІКІТА. (Як тыя вышлі). Ах, забыўся запрапанаваць ім купіць у мяне маркі! Пэўна з «царскімі» эвакуюцца.

ЯНКА. Ня турбуйцеся! Яны, як праўдзівыя патрыёты, з «царскімі» не разлучаюцца.

МІКІТА. Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці не далюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.

ЯНКА. Для вас, як для рускага калежскага рэгістратара, яна можа й чыстая, але для мяне яна — «Варшавске сьмецьце, гразь Масквы», як сказаў вечны Шэўчэнка.

ГАРОШКА. (Паказваючы пугай). А во яшчэ два дапатопы! (Уваходзяць Вучоныя — адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючы праз свае падзорныя трубы).

### ЗЬЯВА VII

ТЫЯ-Ж — УСХОДНІ ВУЧОНЫ — ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. (Стукнуўшыся з Заходнім). Чорт подзеры!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ. Пся крэв!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. Ізьвініце, судар!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ. Пшэпрашам пана!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. І вы зьдзесь?

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ. І пан ту? (Кланяюцца адзін аднаму і прысутным).

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. (Да Янкі). Очэнь к стаці, что вы, господзін Белорус, зьдзесь. Необходзімо почэрпнуць от вас сведзенія касацельно церыторыяльных данных обласьці, іменуемой вашым племенем — Белорусь.

ЯНКА. О, наша тэрыторыя, пане Вучоны, вельмі вялікая — і вокам не дастаць! Уся Менская Брахалка, на якой вы, як бачу, гэтай тэрыторыі шукаеце, ды яшчэ далей.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ. А чы не можэце, пане Бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым «далей»?

ЯНКА. З гэтага нічога ня выйдзе, пане Вучоны. Бо абхапіць гэтае «далей» за кароткі вашы пяты.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. Так, так! (Запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-Западного Края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выясьнілось, что таковая включает в себя всю обласьць Мінской Брэхалкі ды ешчо далей . . . На вопрос, как далеко распространяется оное «далей», мой собеседнік із племені Белоруссов об'ясьніл на местном обшчэрусском говорэ, что для посьціжэнія сего «далей» у наукі вообшчэ і в частносьці у западной наукі короткі пяткі.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ. Так, так! (Запісваючы ў нататнік у перамежку з Усходнім Вучоным). Подчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розьмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыум зостало высьветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей . . . На запытане, як сень далеко роспшэстшэня овэ «далей», муй інформатор походзонцы од Бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненьця онэго «далей» наука наогул, а в шчэгульносьці наука всходня посяда за крутке пенты.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ. (Скончыўшы пісаць). Благодару покорно!

# Часапіс, якому трэба памагчы

(Заканчэньне)

знаёміць чытача з гэтай краінай, на якую сяньня зьвернутыя вочы ўсяго сьвету, а якая зьяўляецца нашаму грамадзянству ведамай толькі з прэсавых камунікатаў аб ваенных дзеяньнях.

Побач з гэтымі артыкуламі, якія бясспрэчна зьяўляюцца добрымі, карыснымі й патрэбнымі, у часапісе знаходзім рад артыкулаў і твораў мернай ватрасьці, слабейшых, а навет зусім слабых, што ў значнай меры абніжаюць вартасьць цэласьці.

Гэтак паколькі М. Багуну ўдалася легенда «Шчасьце», патолькі мастацкі нарыс «На Куцьцю», будучы толькі рэгістрацыяй этнаграфічных фактаў, выйшаў манатонным і бледным. Таксама трохі расьцягнутае апавяданьне-ўспамін Уп. Немановіча «Палон» ня вызначаецца асаблівымі мамэнтамі, якія-б кваліфікавалі яго да саліднага квартальнага часапісу. Пераклад разьдзелу «Зялезная воля» з кнігі О. Мардэна «Воля й Посьпех» зьяўляецца зусім на месцы, бо мае вялікую ўзгадаваўчую вартасьць, затое другі пераклад — Р. М. Рылькэ п.н. «Сказ пра каханьне й сьмерць сьцяганосца Хрыстофа Рылькэ» зьяўляецца, на нашую думку, лішнім, бо малады беларускі чытач, каму ня ўсьміхнулася шчасьце быць студэнтам, — а для такіх у першую чаргу павінен быць прызначаны часапіс — пералістае яго, ня чытаючы зусім у сувязі зь цяжкай ягонай формай і фрагмэнтарычнасьцю сюжэту.

Асобна некалькі словаў аб артыкуле М. Саўкі-Міхальскага «Аб літаратуры». Аўтар хацеў вызначыць агульныя й найбольш характэрныя рысы мастацкай літаратуры, якія твораць ейную спэцыфіку й адрозьніваюць яе ад літаратуры навуковай, публіцыстычнай і г. д., ці ад г. зв. «прозы». Тэма цікавая й карысная, але, на жаль, аўтар не патрапіў зь яе вывязацца. Ён ня толькі ня змог высунуць найбольш спэцыфічных асаблівасьцяў мастацкае літаратуры й заакцэнтаваць іх у радзе ейных пабочных і другарадных рысаў, але ў сваіх азначэньнях і дэфініцыях часта даходзіць да прыкрых недаразуменьняў. Бо нельга-ж цьвердзіць, што на назву мастацкае літаратуры «заслугоўвае толькі тая творчасьць, у якой мы адчуваем нутраны парадак, а таксама сілу й прыгаство выражаных ... словаў». Гэта зусім не адказвае запраўднасьці і ў ніякім выпадку не характарызуе мастацкай літаратуры, як апрычонай галіны людзкой творчасьці. Або яшчэ: «Навет творы ў галіне мэдыцыны, матэматыкі й астраноміі могуць поўнасьцяй заслугоўваць (аўтар чамусьці піша «заслужваць») на назоў мастацкай літаратауры ў выпадку, калі яны добра абдуманы, прыгожа ўпарадкаваныя й памастацку напісаныя». Але-ж нічога падобнага! Мастацкая літаратура не зьяўляецца ніякай «прылепкай» ці «прычэпкай» да тае ці іншае галіны навукі, і яшчэ ня ёсьць мастацкім творам, калі гэты твор ёсьць «добра абдуманы», «прыгожа ўпарадкаваны» ды «памастацку напісаны», але творыць сваю апрычоную й зусім незалежную ані ад мэдыцыны, ані ад матэматыкі ці астраноміі вартасьць.

Замест такога «мудраваньня» варта было для абазначэньня мастацкай літаратуры падаць хоць некаторыя ўзапраўды найважнейшыя й бясспрэчныя ейныя асаблівасьці, што найбольш вызначаюць ейную спэцыфіку, прыкладам, дзьве асаблівасьці наступныя: 1. У той час, калі навуковая літаратура ці наагул «проза» ў сьціслым значэньні гэтага слова мае на мэце выказаньне праўды, у найгоршым выпадку — праўдападобнасьці, дык мастацкая літаратура апэруе выключна **фікцыяй.** Гэтая фікцыя зьяўляецца неадлучнай навет у тым выпадку, калі пісьменьнік апісвае нейкі аўтэнтычны гістарычны выпадак ці, як наш аўтар хоча, нешта з галіны мэдыцыны, матэматыкі ці астраноміі, бо ўсе гэтыя зьявы ён будзе асьвятляць не пад кутом гледжаньня абсалютнае праўды, але выключна з гледзішча на іхную артыстычную функцыю ў літаратурным творы. 2. Другой найбольш спэцыфічнай і бясспрэчнай рысай мастацкае літаратуры ёсьць ейная мова. У той час, калі ў кажным іншым пісьменстве мова мае функцыі камунікатыўныя, хоць часамі, прыкладам у прамовах, якія аўтар намагаецца поўнасьцю залічыць да мастацкай літаратуры, яна мае на мэце ня толькі пераконваць разумова, але разам з гэтым і пачуцьцёва, дык у мастацкім творы ейныя функцыі выключна артыстычныя — выклікаць у нашым вызражэньні канкрэтны абраз або сваей музыкальнай зарганізаванасьцю дзеіць на нашую пачуцьцёвасьць. Пры гэтым мастацкая мова і ўсё тое, што звычайна называем «формай», ня існуе ў вадарваньні ад усіх тых элемэнтаў, што мы называем «зьместам», на што й аўтар артыкулу зьвярнуў зусім правільна ўвагу, цьвердзячы, што гэтая «форма мае поўную вартасьць толькі тады, калі яна служыць элемэнтам, што дапамагае самой ідэі, інакш кажучы, калі яна дае ідэі ўвесь ейны рэльеф, ейную сілу». Даўшы гэтыя, найбольш вызначальныя рысы мастацкае літаратуры, разьвіўшы іх і зьілюстраваўшы на канкрэтных прыкладах найбольш ведамых літаратурных твораў, аўтар змог-бы тады выдатна дапамагчы зразумець спэцыфічную сутнасьць літаратурнага мастацтва навет чытачу зь ніжэйшай асьветай.

У часапісе знаходзім некалькі вершаў А. Будзіча. Аб іх можна сказаць, што з тэхнічнага гледзішча яны зьяўляюцца граматнымі й беззаганнымі, але тэхнічная карэктнасьць яшчэ ня ёсьць паказьнікам мастацкае ўзроўні літаратурнага твору. А гэтая мастацкая ўзроўня вершаў А. Будзіча ня ёсьць высокая.

Між іншымі дробнымі рэчамі, якіх у часапісе шмат, ёсьць разьдзел «Трасянка», у якім знаходзім найбольш цікавыя весткі з розных галінаў жыцьця й веды. Всеь-жа гэтае азначэньне «трасянка» можна было-б аднесьці і да ўсяго часапісу, толькі з гледзішча не на ягоную разнастайнасьць, але на вартасьць: побач з артыкуламі й творамі незапярэчнай вартасьці, аб чым на пачатку была мова, знаходзяцца й артыкулы і творы, якія ад часу да часу маглі-б паяўляцца ў газэце, але якім ня месца ў квартальным часапісе. Выглядае, што яны зьмешчаныя толькі па тое, каб разрасталіся балоны часапісу. У ўмовах даслоўна жабрацкага нашага выгнанскага жыцьця такія амбіцыі зусім не на месцы, бо выкіданыя такім спосабам грошы можна было-б выкарыстаць на больш патрэбныя й карысныя мэты.

Мы гэтым ня маем намеру дакараць нашых лювэнскіх студэнтаў, але ўважаем за патрэбнае, навет за абавязак падчыркнуць, што ў рэалізацыі розных нацыянальных патрэбаў, — у чым нашыя магчымасьці наагул вельмі абмежаваныя — трэба ўмець і хацець рабіць належную градацыю рэчаў з гледзішча на іхную аб'ектыўную вартасьць і рэальную карысьць.

Ня гледзячы на ўсё гэта, сэм факт паяўленьня часапісу «Наперад» трэба лічыць зьявішчам вельмі дадатнім. Да ўсяго таго, што вышэй гаварылася, трэба яшчэ дадаць дбаласьць аб чысьціні мовы, — хаця й тут знаходзім дзікія барбарызмы — ейную граматнасьць і нядрэнную друкарскую карэкту, бо да ўсяго гэтага многія нашыя рэдакцыі адносяцца з наўмысным нядбальствам. Заслугоўвае на ўвагу й мастацкае афармленьне часапісу, зробленае маладым і шмат абяцаючым мастаком зь Лювэну М. Саўкам-Міхальскім. На жаль, усе гэтыя рысункі, асабліва вокладка, зробленыя ў перастарэлым, ужо аджыўшым свой век, мастацкім стылі.

Паказваючы на некаторыя заганы часапісу, нельга гэтаму дзівіцца, калі ўзяць пад увагу, што быў ён пісаны й рэдагаваны выключна некалькімі асобамі лювэнскай групы нашых студэнтаў, якая ўся налічвае толькі каля 30 чалавек. Таму гэткі часапіс пры такіх сьціплых сілах, занятых унівэрсытэцкімі студыямі й эгзаменамі, зьяўляецца не ў дакор, але ў прызнаньне й пахвалу нашым лювэнцам. Яны гэтым паказалі, як паказвалі ўвесь час іншымі сваімі дасягненьнямі, найпрыгажэйшы прыклад, як трэба працаваць для нацыянальнай справы. Калі лювэнскія студэнты ўзялі на сябе гэтую прыгожую ініцыятыву, то ўсе іншыя нашыя працаўнікі пяра, паэты, пісьменьнікі й публіцыстыя, якія наракаюць, што творы іхныя буцьвеюць у валізах і скрынях, бо няма іх дзе друкаваць, няхай сваім канкрэтным супрацоўніцтвам спрычыняцца да росту і ўзбагачэньня часапісу. А сам часапіс, асабліва энтузіястычныя ягоныя ініцыятары й выдаўцы поўнасьцю заслугоўваюць на тое, каб ім дапамагчы.

**Др. Ст. Станкевіч**

# Беларусы ў сьвеце

## у Аўстраліі

### АСАБЛІВАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У МЭЛЬБУРНЕ

Беларусы Мэльбурна перажылі нядаўна асаблівую ўрачыстасьць. Дня 10 студзеня адбылося тут пасьвячэньне дому сп. сп. М. Скабея і П. Мікуліча. Акту пасьвячэньня даканаў а. Барыс Стасышын, настаяцель мясцовага прыходу УАПЦ, у асысьце а. Івана Віньніцкага. Апрача Беларусаў былі прысутныя госьці зь іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку й ведамы прыяцель імігрантаў, які заўсёды асабліва прыязна адносіўся да Беларусаў, сп. Рэфціс, кіраўнік аддзелу з Дэпартамэнту Іміграцыі.

Здавалася-б, сам факт пасьвячэньня дому не павінен быць аб'ектам большага зацікаўленьня, каб аб ім пісаць у газэце. Аднак спэцыфічныя абставіны, у якіх распачыналася будова, і мэты, якім і да сяньняшняга дня служыць гэты дом, надалі і ўрачыстасьці асаблівы характар.

Спадары М. Скабей і П. Мікуліч, шырака ведамыя на аўстралійскім груньце, яшчэ плянуючы будову дому, загадзя ўзялі пад увагу, што ў ім знойдуць часовы прыпынак і беларускія арганізацыі штату Вікторыя. Гэтая «часовасьць» ужо трывае даўжэйшы час, і сяньня цяжка прадбачыць, калі яна скончыцца і калі мы патрапім збудаваць ці купіць собскі дом для нашых арганізацыяў. Тымчасам ужо больш году, навет калі яшчэ дом ня быў поўнасьцю выканчаны, у ім ужо адбываліся ўсе беларускія імпрэзы, сьвяткаваньні, лекцыі ды зборкі. Бязумоўна, дзейнасьць беларускіх арганізацыяў, як Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі і Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Вікторыі, ня была-б такой эфэктоўнай, каб праблема памешканьня ня была гэтак разьвязаная. Беларускія арганізацыі ўжо ня раз выказвалі гаспадаром дому ўдзячнасьць за іхную ахвярнасьць. Такая ахвярнасьць, як ня раз падчырквалі й прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, зьяўляецца рэдкасьцю ў нашых эміграцыйных абставінах.

Таму вось іменна й сямейная, як-бы здавалася, урачыстасьць гаспадароў дому прыняла ў такіх абставінах і грамадзкі характар.

За бясердным сталом, апрача прывітаньняў, пажаданьняў ды падзякаў, пяяліся й беларускія песьні, расказваліся ўспаміны з Бацькаўшчыны, напасьледак адбыліся й танцы.

### ЛЕКЦЫІ ЗЬ БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ

У нядзелю 15 лютага сёлета адбылася ў Мэльбурне чарговая лекцыя на тэму «Некаторыя беларускія звычаі». Лекцыю прачытаў сп. М. Скабей, асабліва шырэй затрымаўся над калядными, вялікоднымі й вясельнымі звычаямі. Лекцыя выклікала вельмі жывое заінтэрэсаваньне ў слухачоў. Пасьля лекцыі былі праслуханыя беларускія песьні з плітак, награных Беларускім Студэнцкім Ансамблем у Лювэне. **А. Махнеўскі**

### БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ!

**Перад Вамі стаіць лепшая будучыня. Навязвайце лучнасьць паміж нашымі суродзічамі Беларусамі ў Даніі. Гэтым хутчэй пакінеце Нямеччыну й пачніцё новае сямейнае жыцьцё ў новым прыгожым месцы.**

**Свае адрасы накіроўвайце на адрас Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» на № 130.**

### «ОСВОБОЖДЕНИЕ» НОВАЯ ВЫЗВОЛЬНАЯ ГАЗЭТА НАРОДАЎ СССР

1-га лютага выйшаў першы нумар, а 2-га лютага другі нумар двухтыднёвай газэты ў расейскай мове «Освобождение», воргану «Міжнацыянальнага Рэвалюцыйна-Дэмакратычнага Руху Народаў СССР». У газэце, побач з артыкуламі публіцыстых нерасейскіх народаў, таксама друкуюць свае артыкулы й выдатнейшыя расейскія дэмакратычныя палітыкі й публіцыстыя, якія вызнаюць правы нерасейскіх народаў на іхную дзяржаўную незалежнасьць і змагаюцца зь імпэрыялізмам як Сталінскім, гэтак і рэакцыйных расейскіх колаў на эміграцыі. Усім Беларусам, якія ведаюць расейскую мову, рэкамэндуем гэтую газэту. Адрас Рэдакцыі й Адміністрацыі наступны: „Osvocoshdenije", Postfach 37, Neu Ulm, Germany.

### АДКАЗЫ РЭДАКЦЫІ

**Сп. Міколе Вярбе ў Канадзе.** Артыкул «Ці маем падставы быць незадаволенымі?» атрымалі, за які дзякуем. Ранейшых ніякіх ад Вас матарыялаў мы не атрымлівалі, відаць, загінулі яны ў дарозе. Прапанаваныя матарыялы просім прыслаць і ў меру магчымасьці будзем іх выкарыстоўваць.

### АСАБІСТАЕ

**З нагоды шлюбу спадарства Ганны і Пётры Мікулічаў выказваю ім ад імя собскага і сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі найлепшыя пажаданьні.**

**Старшыня**
**Ўправы Згуртаваньня Беларусаў**
**у Вікторыі (Аўстралія)**

# Пісьмо у Рэдакцыю

### ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!

**Ветліва прашу Вас зьмясьціць на балонках Высокашаноўнае «Бацькаўшчыны» гэты мой адкрыты ліст.**

**Пэрыядычнае выданьне «Незалежная Беларусь» у сваім № 2 падае да ведама сваіх чытачоў вестку аб тым, нібы нашая слынная паэтка Ларыса Гэнюш «цяпер пяе дыфірамбы «вялікаму» і «мудраму» Сталіну». Між тым варта перагарнуць балонкі ўсіх г. зв. беларускіх выданьняў у БССР, якія ёсьць на паліцах Ньюёрскае Публічнае Бібліятэкі, каб у вачавідку пераканацца, што нідзе ў іх імя Ларысы Гэнюш ня прыгадваецца. Паводля самых пэўных вестак, пясьнярка разам з сваёй сям'ёй (муж і сын) была ўвосені 1948 году ў Празе арыштаваная бальшавікамі і паасобку ад сям'і вывезеная ў вадзін з канцэнтрацыйных лягераў Сібіру. Яна падзяліла гэтым гаротны лёс нашых нязьлічоных змагароў за Незалежнасьць Беларусі. І яна пэўне прадчувала гэты пакутны лёс, канчаючы адзін з сваіх апошніх вершаў патрыятычнай заявай:**

**Ня страшны зьдзек мне, ні прымус,**
**Над Краем толькі плачу.**
**Дала мне Маці-Беларусь,**
**Відаць, такую ўдачу...**
**Заўсёды ў мрыях з Вамі, ў снох,**
**Жыць буду ці загіну,**
**П'ю чару горычы да дна**
**За Вас і за Краіну.**

**Ларыса Гэнюш — сьветлая постаць у нашай найноўшай літаратуры. Той, хто ведае Гэнюш па ейных творах, вычуў ейную чароўнасьць, як паэткі, а той, хто меў прыемную й незабытную нагоду асабіста сустракацца зь ёю, вычуў таксама і ейную чароўнасьць, як чалавека. Таму з глыбокім болем, жалем і сумам ставімся мы ўсе да яе цяперашніх пакутаў. Таму сорам тым, хто перакручваючы запраўднасьць, спрабуе ліць воцат на раны змагароў за Незалежнасьць Беларусі.**

**Прашу прыняць мае самыя найлепшыя пажаданьні.**

**З узвышэнскім**
**і шыпшынаўскім прывітаньнем**
**1. 3. 1953, ЗША. Юрка Віцьбіч**

# СПРАВАЗДАЧА

### З ХАРЫТАТЫЎНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА ЖАНОЧАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Даводзіцца да агульнага ведама беларускага грамадзянства, што Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне за мінулы 1952 год атрымала наступныя ахвяры:

| | |
|---|---|
| 1. Цераз сп. М. Сэрдачэнку з Дэтройту, ЗША | 226.05 ДМ |
| 2. Цераз а. А. Крыта, Ангельшчына | 50.— ДМ |
| 3. Цераз сп. В .Русака (Згуртаваньне Моладзі ў ЗША) | 125.10 ДМ |
| 4. Сп. Н. Порык, ЗША (асабістая ахвяра) | 41.70 ДМ |
| 5. Сп. Чабатар, Аўстралія (асабістая ахвяра) | 6.00 ДМ |
| 6. Сп. З. Ст., Нямеччына (асабістая ахвяра) | 3.60 ДМ |
| Разам | 452.45 ДМ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Ад БАЗА зь Нью Ёрку (цераз сп. Б. Вержбаловіч) | 11 | пачкоў | адзежы |
| 2. Ад Згуртаваньня Моладзі ў ЗША (цераз сп. сп. В. Русака і Данілюка) | 6 | » | » |
| 3. Ад Жаночага Згуртаваньня ў Аўстраліі (цераз сп. Э. Яцкевіч) | 4 | » | » |
| 4. Ад Бел. Нац. Камітэту ў Аўстраліі (цераз сп. Нікана) | 10 | » | » |
| 5. Ад ЗБВБ з Манчэстару | 4 | » | » |
| 6. Ад сп. Ф. Родзькі, ЗША (асабістая ахвяра) | 2 | » | » |
| 7. Ад сп. сп. Юрэвіча, Кажуры й Орсы, ЗША (асабістая ахвяра) | 3 | » | » |
| 8. Ад Жаночага Згуртаваньня ў Кліўленд, ЗША (цераз сп. К. Чэрнік) | 3 | » | » |
| 9. Ад сп. Барт. Н., Нямеччына (асабістая ахвяра) | 1 | » | » |
| 10. Ад сп. Орсы з ЗША (асабістая ахвяра) | 1 | » | » |
| Разам | 45 | пачкоў | |

**З грашовых ахвяраў выдаткавана:**

| | |
|---|---|
| 1. Згодна волі ахвярадаўцаў выдана 6 асобам па 15 ДМ | 90.— ДМ |
| 2. Згодна волі ахвярадаўцаў выдана 2 асобам па 20 ДМ | 40.— ДМ |
| 3. Згодна волі ахвярадаўцаў выдана 1 асобе 25 ДМ | 25.— ДМ |
| 4. Выдана 6 хворым на ТВС па 10 ДМ | 60.— ДМ |
| 5. Выплачана пошце за дастаўку пачак | 44.80 ДМ |
| 6. Пошце за перасылку пачкоў у ліку 73 | 80.90 ДМ |
| 7. Выдаткі на ўпаковачны матарыял, дастаўку пачкоў на пошту і выдаткі на перапіску | 30.46 ДМ |
| Разам | 371.16 ДМ |

У касе Жаночага Згуртаваньня на 1 студзеня 1953 году асталося 81,29 ДМ, на якія ў бліжэйшым часе будуць закупленыя прадукты харчаваньня й разасланыя хворым.

З атрыманых 45 адзежных пачкоў Жаночым Згуртаваньнем 4 пачкі з Манчэстару перададзеныя згодна волі ахвярадаўцаў па прызначэньню, а адзін пачок, прысланы сп. Орсай, перададзены сп. Х. З 33 пачкоў зроблена 73 і разаслана патрабуючым дапамогі Беларусам у:

| | |
|---|---|
| 1. Лягер «Валька» | 18 пачкоў, |
| 2. Інгальштадт | 10 » |
| 3. Ляндсгут | 9 » |
| 4. Амбэрг | 7 » |
| 5. Вайдэн | 7 » |
| 6. Люнгэн Эмс | 6 » |
| 7. Браўншвайг | 4 » |
| 8. Рэгензбург | 3 » |
| 9. Эгінгэн | 2 » |
| 10. Дэгэндорф | 2 » |
| 11. Ольдэнбург, Фэльдафінг, Графэншаў, Ляўторгофэн і Ватэнштэт | 5 » |
| Разам | 73 пачкі. |

З атрыманых пачкоў частка рэчаў выдана непасрэдна Беларусам у лягеры Шляйсгайм. 7 пачкоў, высланых ахвярадаўцамі непасрэдна ў лягер Розэнгайм, разьмеркаваныя на месцы сярод Беларусаў.

**Заўвага:** Грошы высланыя на адрас старшыні Згуртаваньня ў Розэнгайм ад сп. Каранеўскай (Аўстралія) 27 ДМ, сп. Сэрдзечэнкі (ЗША) 10 дал. і Жаноцкага Згуртаваньня Кліўленд (ЗША) 22 дал. 30 цэнтаў атрыманыя й скарыстаныя на высылкі прадуктовых пачкоў патрабуючым. Дакладныя зьвесткі аб гэтым будуць пададзеныя ў чарговай справаздачы за першае паўгодзьдзе 1953 г.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне да гэтага часу зарэгістраваў да 400 Беларусаў, якія патрабуюць безадкладнай дапамогі, у тым ліку хворых на ТВС 70 асобаў, зь якіх толькі нязначная частка знаходзіцца ў санаторыях. Жаночае Згуртаваньне пры наяўнасьці грашовых сродкаў зможа задаволіць просьбу хворых, арганізуючы пасылку прадуктаў, што ў Нямеччыне зусім магчыма. Зьвяртаецца ўвага ахвярадаўцаў на вялікую патрэбу ў мужчынскай адзежы й абутку, бо да гэтага часу атрыманыя пачкі былі з жаночым адзеньнем і абуткам.

Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне ад імя Беларусаў, якія атрымалі дапамогу, прыносіць сваю шчырую й сардэчную падзяку ўсім Суродзічам, якія прычыніліся сваімі сродкамі й працаю, каб дапамагчы пакрыўджаным лёсам: хворым, калекам, старым ды ахвярам даносаў. Жаночае Згуртаваньне зь вялікай прыемнасьцяй канстатуе выключна чулыя й уважныя дачыненьні людзей добрай волі да справы дапамогі, што відаць з гэтай справаздачы. Мы спадзяёмся, што ў іншых гарадох ЗША Беларусы далучацца да дапамаговай акцыі. Мы таксама ўпэўненыя, што нашыя Суродзічы ў Канадзе і іншых краінах урэшце працягнуць таксама братнюю руку дапамогі. Усякая ахвяра, агульная й асабістая, будзе прынятая зь вялікай удзячнасьцю і дойдзе да тых, якія пакінутыя на марнае існаваньне ў Нямеччыне. Пакрыўджаныя лёсам будуць адчуваць сябе не такімі забытымі й пакінутымі, калі больш шчасьлівыя іх суродзічы, якія вырваліся зь лягернага бясправнага і небясьпечнага існаваньня, будуць памятаць аб іх.

У сувязі з тым, што Жаночае Згуртаваньне ня мае свайго сталага памешканьня, усе ахвяры просім накіроўваць на адрас: Weissruthenisches Komitte, (13b) München 22, Herzog Rudolf Str. 49/III für Frauenverband.

**Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным за 15 сакавіка й будзе прысьвечаны дваццаць пятай гадавіне сьмерці першага Прэзыдэнта БНР Пётры Крэчэўскага і дзесятай гадавіне сьмерці другога Прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі.**